КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## На жаль, служака не дапетрыў, што словы носяцца ў паветры

На жыхарку сталічнай Новай Баравой быў складзены адміністрацыйны пратакол за тое, што быццам бы яна ўвечары са свайго балкона на 8-м паверсе крыкнула словы “Жыве Беларусь!”. У судзе жанчына сцвярджала, што ў гэты час яе не было дома, нават прад’явіла двух сведак, а пратакол быў складзены менавіта на яе, бо раней службоўцы двойчы папярэджвалі за сняжынкі на акне. Тым не менш суд аштрафаваў “зламысніцу” на 870 рублёў.

Той участковы быў вясёлы,
Як абыходзіў свой раён:
На шчасце, нейкае крамолы
Вакол сябе не бачыў ён.
Трымаючы сцяжкі й плакаты,
Ніхто не шастаў па двары,
Стаміўшыся, пайшлі дахаты
І жыхары, і бунтары.
І тут прысеў ажно ўчастковы,
Пачуўшы:
– Беларусь жыве!
У скроні гэтыя два словы
Ударылі, як кулі дзве.
Здалося, голас той жаночы –
Зусім не бас ці барытон.
У цемру, навастрыўшы вочы,
Стаў узірацца пінкертон.
Аднак ні блізка, ні далёка
Не ўбачыў ён людзей ані.
Падобна, словы прагалёкаў
Зламыснік нейкі з вышыні.
Паблізу дом шматпавярховы,
Адтуль і чуўся крык, бадай.
Крыху задумаўся ўчастковы,
Бо паспрабуй яму ўгадай,
З якога цёмнага балкона
Уніз зляцеў крамольны крык.
Здагадка ўзнікла ў пінкертона
(Лічыў, што правільны разлік),
З якой галёкалі кватэры.
Жанчына там “без тармазоў” –
Калегі-міліцыянеры
Яе “ўшчувалі” шмат разоў:
Чырвона-белыя сняжынкі
Яна чапляла на акно.
Хоць на балконе са сцяжынкі
Жанчыны не было відно,
Ды быў упэўнены ўчастковы:
Галёкнула якраз яна
І на судзе за тыя словы
Павінна атрымаць спаўна.
І ў абарот узяў кабету,
І суд адбыўся сапраўды.
Для ўсіх, бадай, няма сакрэту,
Якія ў нас цяпер суды
І як выносяць прыгаворы
Тым, хто “патрапіў пад пяту”.
І гэты суд быў вельмі скоры:
Як павялося ўжо, “мянту”,
А не жанчыне даў ён веры,
Хоць і даводзіла яна:
– Ды не было мяне ў кватэры –
Я гасцявала да відна!
І гэта вам пацвердзяць сведкі!
Якім жа вырак быў суддзі?
Як кажа люд пра вырак гэткі,
Да варажбіткі не хадзі…

***

А я, сябры мае, паверу,
Што ў гэты вечар сапраўды
У вушы міліцыянеру
Праніклі словы тыя, ды,
На жаль, служака не дапетрыў,
Не ўзнікла думка ў галаве:
Само ўжо носіцца ў паветры
Выслоўе “Беларусь жыве”…

## Дзялілі гора

Бацька багаты сканаў кагадзе,
Грошай пакінуў нямала.
Ярасна дзеці дзялілі ў судзе
Гора, што іх напаткала…

## Недастойны

Падумаў мужчына,
Аж дзве паўлітроўкі
Заліўшы ў вантробы свае:
“Такая прыгожая знешнасць
сяброўкі,
Што я недастойны яе…”

ГРАМАДЗЯНСКАЯ ПАЗІЦЫЯ

# «Усё рабіў так, як напісана ў Выбарчым кодэксе»

*Размова са звольненым дырэктарам школы, дзе на ўчастку перамагла Святлана Ціханоўская*

**Яўгена Макарэвіча**, які кіраваў маладзечанскай школай №5, звольнілі 1 красавіка. Заяву ён напісаў у ноч пасля выбараў у кабінеце начальства ў выканкаме.



### «У душы апошнія месяцы нешта такое было, як камень»

– *Як адчуваю сябе? Нармальна. Не тое каб нейкая палёгка, але я ж практычна чакаў гэтага звальнення,* – адразу кажа Яўген Макарэвіч. – *Заяву на звальненне напісаў яшчэ 9 жніўня, хоць мне і сказалі, што яна згубілася. Але я разумеў, што некалі ўсплыве. Я ў вёсцы цяпер. То ў Маладзечне, то тут. Сыну дапамагаю, ён дом будуе ў Маладзечне, пабудаваў ужо. Унук хварэў, то з ім быў тыдзень. Я цяпер свабодны чалавек, магу дапамагаць.*

Яўген Васілевіч кажа, што плануе займацца рамонтам. «Халасцякуе» на гаспадарцы бацькоў жонкі. Да пенсіі быламу дырэктару маладзечанскай школы №5 не далі дапрацаваць крыху больш за год. Макарэвіч кажа, што наконт гэтага не турбуецца, бо працоўнага стажу хапае.

– *Калі паўстане пытанне, што я там нейкі «дармаед» ці «не дармаед», то працу знайду,* – гаворыць Яўген Васільевіч. – *Можа, кваліфікаваную ці нават некваліфікаваную – усё адно. Знайсці можна. Разумееце, у мяне ў душы апошнія месяцы нешта такое было, як камень. Змянілася штосьці ў апошнія месяцы, пасля падзей жніўня. Сістэма стала таксічная. Калі раней я заходзіў у кабінеты, то адчуваў, што мяне прымаюць, слухаюць. Насустрач ідуць. А са жніўня ўсё з нацяжкай ужо было. Разумееце, я ж адзін у раёне такі аказаўся. Які «не як людзі» зрабіў. Баяцца, відаць, што ім знаёмства са мной бокам выйдзе.*

Макарэвіч кажа, што гаворыць найперш пра чыноўнікаў з кіраўніцтва раённага аддзела адукацыі і іншых месцаў. Былы дырэктар расказвае, што яшчэ 1 верасня 2020 года з ягонай школы звольнілася намесніца па выхаваўчай рабоце. Заўважае, што там таксама былі пытанні, звязаныя з выбарамі. Яўген Васільевіч прапаноўваў на гэту пасаду некалькі кандыдатур з ліку сваіх настаўнікаў, але нікога з іх не зацвердзілі. Намесніка дырэктара па выхаваўчай працы ў 5-ю школу пры Макарэвічу так і не прызначылі.

### «Здалі мы гэты пратакол – і пачалося тое, што пачалося»

Дырэктарам у 5-й школе Яўген Васільевіч Макарэвіч прапрацаваў 22 гады. Да таго быў настаўнікам у 12-й школе Маладзечна, выкладаў гісторыю. У сістэму адукацыі Макарэвіч пайшоў працаваць з 1985 года, адразу, як скончыў Мінскі педагагічны інстытут. У розных школах агулам ён прапрацаваў 34 гады.

– *Я ў адпачынак пайшоў, у мяне яшчэ з мінулага года заставалася 25 дзён,* – расказвае Яўген Васільевіч пра сваё звальненне. – *Пагода была, рамонт рабіў. Сыну аднаму цяжкавата было. А недзе за тыдні два да 1 красавіка начальніца ўпраўлення адукацыі Маладзечна пазваніла і сказала, што будуць звальняць па той заяве, якую напісаў 9 жніўня. Я не пытаўся, за што звальняюць. Сам жа тую заяву напісаў.*

Заяву на звальненне з пасады дырэктара школы №5 г.Маладзечна Макарэвіч напісаў а 2-й гадзіне ночы ў кабінеце раённага начальства. Туды яго выклікалі званком з райвыканкама пасля таго, як дырэктар адвёз у выканкам пратакол з лічбамі галасавання на выбарчым участку ў сваёй школе.

– *Разумееце, прагаласаваць на гэтыя выбары прыходзілі нават нашы былыя вучні, якія даўно жывуць за мяжой. Яны знарок прыехалі, мы не маглі падлічыць іх галасы няправільна,* – гаворыць Яўген Васільевіч. – *Як жа ім потым у вочы глядзець? У нас усё было згодна з Выбарчым кодэксам. Усё арганізавалі так, як там прапісана. І ўвечары, калі мы ўсё падлічылі, кандыдат Ціханоўская атрымала на 120 галасоў больш, чым кандыдат Лукашэнка. Я разумеў, што могуць быць праблемы. Што гэтая лічба будзе не зусім імпанаваць начальству. Таму я звярнуўся да ўсіх сяброў камісіі. Сказаў, што кожны з іх мае права выказаць сваю думку. Усе пагадзіліся з лічбамі і падпісалі пратакол.*

Пратакол з выніковымі лічбамі Макарэвіч разам з сакратаром выбарчай камісіі павёз у выканкам, копію павесілі на стэндзе на ўчастку ў школе.

– *Здалі мы гэты пратакол – і пачалося тое, што пачалося,* – расказвае Яўген Васільевіч. – *Пазванілі мне з выканкама ўначы, выклікалі на размову. Я прыехаў. Разумеў, у чым праблема. Там мне ўжо выказалі меркаванне, што я, як бы вам сказаць, своеасаблівая «белая варона». Пагроз не было. Казалі толькі, што мне паўтара года да пенсіі, што я мушу нешта «разумець». Там былі прадстаўнікі розных структур раённых. А я палічыў, што не заслужыў такога. І калі зрабіў такую дрэнную рэч, то маю права звольніцца проста сёння. Заяву на звальненне напісаў проста там. Нават не ведаю, хто яе забраў: там і маё кіраўніцтва было, і намеснік старшыні райвыканкама, і іншыя асобы.*

Былы дырэктар гаворыць, што нічога іншага зрабіць 9 жніўня не мог, нягледзячы на тое, што шмат хто са старшыняў выбарчых камісій змаглі, а яму да пенсіі сапраўды заставалася зусім няшмат.

– *Мяне так у сям’і выхавалі,* – кажа Яўген Васільевіч. – *Мы ўсе вельмі рупліва ставімся да праўды. Памятаю, калі бацька ў хаце знаходзіў паперку ад цукеркі, то пытаўся ў нас з братам, хто кінуў. А мы ж дзеці, як звычайна: «Не я!» То тады ўдвох адну паперку былі вымушаны выкідваць. Я сваіх дзяцей таксама так выхоўваў, што трэба гаварыць праўду. І ад калег сваіх патрабаваў. А што я ім мог тады сказаць?*

Чаму яго не звольнілі яшчэ ў жніўні, Яўген Макарэвіч не ведае. Кажа, што, магчыма, не было ўказанняў «зверху». Альбо проста чарга дайшла толькі цяпер. Паводле слоў былога дырэктара, у Маладзечне зараз ідзе цэлая хваля звальненняў кіраўнікоў. Пазбавілі працы дырэктара дзяржаўнага каледжа, старшыню прафсаюза работнікаў сельскагаспадарчых арганізацый. Дарэчы, кіраўніком камісій падчас выбараў Макарэвіч быў і раней і тады ў выканкам таксама падаваў праўдзівыя лічбы. Сітуацыя з галасаваннем за альтэрнатыўнага Лукашэнку кандыдата кардынальна змянілася толькі сёлета, кажа былы дырэктар.

– *У нас у акрузе своеасаблівы электарат заўсёды быў,* – гаворыць Яўген Васільевіч. – *Прыватны сектар, людзі ў асноўным пажылыя: прэзідэнт даў ім пенсію; калі выберуць іншага, то не вядома, што будзе. Яны стаялі пад дзвярыма школы, каб прагаласаваць першымі. Сапраўды галасавалі за Лукашэнку. Але ў апошні час усё змянілася. Людзі захацелі перамен.*




### «Хацеў стварыць дзецям такія ўмовы, каб яны вучыліся ў не горшай за іншыя школе»

– *Я вучыўся на гістарычным факультэце ў Мінскім педінстытуце, тады яшчэ імя Горкага,* – успамінае Макарэвіч. – *Настаўнік гісторыі і французскай мовы. Але французскую мову я толькі год выкладаў. Гісторыю люблю, выкладаў заўсёды яе, да апошняга часу таксама, калі дырэктарам быў. У мяне заўсёды было 9–10 гадзін, палова стаўкі прыкладна. Але настаўнікам я выпадкова стаў, можна сказаць. Усё жыццё марыў стаць археолагам.*

Яўген Макарэвіч расказвае, што паходзіць з вёскі Мацькаўцы на Вілейшчыне. Да арміі год працаваў на трактары ў сельскай гаспадарцы. Прыгадвае, што дырэктар калгаса намаўляў яго пайсці ў Інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі, абяцаў накіраванне. Але Макарэвіч усё ж выбраў мару. На археолага тады можна было вучыцца альбо ў Гродзенскім педінстытуце імя Янкі Купалы, альбо ў Маскве. Яўген Васільевіч паехаў у Гродна.

– *Не паступіў, не хапіла мне паловы бала,* – успамінае Макарэвіч. – *Напісаў сачыненне на чатыры балы і не прайшоў па конкурсе. Тэма была «Ты на подзвіг завеш, камсамольскі білет!». Экзамены ў адной групе разам з Вольгай Корбут здаваў, з вядомай гімнасткай. Вядома, яна паступіла. Вучылася яна там ці не, гэта ўжо іншае пытанне. А я пайшоў у войска.*

Пасля арміі Макарэвіч паехаў вучыцца ў Мінск: археалогію ў Гродзенскім педінстытуце да таго часу ўжо згарнулі, да Масквы ехаць было далёка. Старастам групы ў Мінскім педінстытуце, дзе вучыўся Макарэвіч, быў Анатоль Лябедзька. З будучым шматгадовым кіраўніком АГП Яўген Васільевіч доўга сябраваў, Лябедзька нават хрысціў яго сына.

Учынак Яўгена Макарэвіча 9 жніўня не застаўся незаўважаным у Маладзечне. Яшчэ ўвосень некалькі сем’яў напісалі заявы на перавод дзяцей у 5-ю школу. Калі напрыканцы сакавіка стала вядома, што Макарэвіча звальняюць з пасады дырэктара, у аддзел адукацыі Маладзечна пайшлі лісты ад бацькоў з просьбай пакінуць дырэктара на месцы.

– *Разумееце, школа ў своеасаблівым месцы знаходзіцца,* – гаворыць Яўген Васільевіч. – *Гэта такая сельская мясцовасць у горадзе. Гістарычны цэнтр Маладзечна. У асноўным там прыватны сектар. Дзеці там я не скажу, што абдзелены ўвагай. Побач гімназія №3, праз трыста метраў ад нашай школа №1 імя Янкі Купалы. Наша 5-я яшчэ напрыканцы 1950-х пабудавана, усяго 13 кабінетаў, 400 вучняў прыкладна. Гэта дзеці, якія не пайшлі ў гімназію, не трапілі ў іншыя школы. І я хацеў ім стварыць такія ўмовы, каб яны ведалі, што вучацца не ў горшай за іншыя школе, нічым не абдзелены.*

Умовы для дзяцей Яўген Макарэвіч ствараў з дапамогай выхаваўчых праектаў, больш скіраваных на развіццё. Былы дырэктар гаворыць, што ў выніку гэтыя праекты сталі вядомы не толькі ў Маладзечне, бо рэалізоўваў ён іх з дапамогай замежных калег і фондаў. Заключыў дамову з нямецкай гімназіяй Хайдберга ў горадзе Гётынгене аб тым, што яна кожны год будзе прымаць вучня з Маладзечна, а таксама аб абмене досведам і дэлегацыямі. За час працы Макарэвіча дырэктарам у Нямеччыне адвучыліся 20 маладзечанскіх школьнікаў. Былі таксама сумесныя праекты па барацьбе з цукровым дыябетам у дзяцей, ушанаванні памяці ахвяр канцэнтрацыйных лагераў.

– *Быў яшчэ цікавы праект «Калідорныя дзеці»,* – расказвае былы дырэктар. – *У нас у раёне школы дагэтуль шмат сямей жыве ў інтэрнатах – ад станказавода і іншых. Яны некамфартабельныя, вядома. Адзін туалет, адзін душ на калідор. А чым заняць дзяцей, якія там жывуць? Мы вырашылі проста ў інтэрнатах зрабіць ім гульнявыя пакоі. Рабілі гэта сумесна з галандскай недзяржаўнай арганізацыяй, з маладзечанскімі прадпрыемствамі. Галандцы мэблю нам дапамагалі купляць, усё зрабілі. Для дзяцей настолькі захапляльна гэта было! Мы і мерапрыемствы ў гэтых пакоях рабілі.*

Яўген Макарэвіч пра такія праекты расказвае шмат. І пра валанцёрства, і пра стварэнне клубаў для былых малалетніх вязняў канцлагераў, і пра працу з педагогамі, якія пайшлі на пенсію. За больш як 20 гадоў на пасадзе дырэктара дзейнасць Макарэвіча з калегамі правяралі і беларусы, і іншаземцы. Парушэнне, паводле яго слоў, знайшлі адзін раз – не сышліся рахункі: праз розніцу курсаў дзесьці згубілася сума памерам 2 еўра.

– *Людзі ж бачылі ўсё гэта, усю нашу працу,* – гаворыць Яўген Васільевіч. – *І гэта не толькі мая заслуга. Увесь калектыў падабраўся такі. Лідзія Князева з клуба «Пошук»; Алена Парахня, якая была намеснікам дырэктара па выхаваўчай працы; настаўніца нямецкай мовы Зоя Дылеўская... Ды шмат хто! Усе настаўнікі былі задзейнічаны. Ніхто не казаў, што ім цяжка, што ім за гэта грошай не плацяць. Бацькі ж разумеюць, што калі ўсе нашы праекты знікнуць, то цікавасць у дзяцей прападзе і да вучобы, і да ўсяго іншага.*

Пасля звальнення Макарэвіча за яго заступіліся не толькі бацькі вучняў 5-й школы. Са зваротамі ў абарону дырэктара звярнуліся таксама нямецкая гімназія з Гётынгена і фонд «Усходняга партнёрства», які дапамагаў праектам фінансава.

### «Дзеці разумеюць, што папраўдзе адбываецца ў краіне»

– *Мне вельмі крыўдна, калі настаўнікаў называюць фальсіфікатарамі,* – прызнаецца Яўген Макарэвіч. – *Крыўдна за людзей, крыўдна за прафесію. Нешта зрабілася такое, што адукацыя стала не асобнай сістэмай у краіне, а толькі прыдаткам да чагосьці. І настаўнікаў проста выкарыстоўваюць. Як мне сёння прыйсці на ўрок грамадазнаўства і растлумачыць дзецям, што такое прававая дзяржава, калі ім па тэлевізары гавораць, што «бывае, калі і не да законаў»? Як такое можа быць? Шмат хто з настаўнікаў робіць тое, што ім кажуць рабіць. Ва ўсіх крэдыты, сем’і. Але я не ведаю, як пройдуць наступныя выбары. Камісіі ж ізноў арганізуюць у школах.*

Яўген Макарэвіч кажа, што сучасныя дзеці, нягледзячы на змест дзяржаўнага тэлебачання і друку, выдатна разумеюць, што папраўдзе адбываецца ў краіне. Пасля выбараў ён выкладаў у старшых класах і добра гэта адчуў.

– *Дзеці атрымліваюць інфармацыю з інтэрнэту, частку разам з бацькамі абмяркоўваюць, нешта і самі на вуліцах бачаць,* – гаворыць Яўген Васільевіч. – *Яны маюць свой пункт гледжання. Дзеці ў нас мэтанакіраваныя, са сваім светапоглядам. Яны ўсведамляюць, што на самай справе адбываецца. Я аптымістычна гляджу на будучыню. Чалавек заўсёды будзе верыць у будучыню, дзеля сваіх дзяцей. Ды і дзеля самога сябе.*

Макарэвіч расказвае, што ўсцешаны падтрымкай ад былых вучняў. Пасля навіны пра звальненне яму пастаянна нехта з іх піша альбо тэлефануе.

– *Вось акурат перад вамі патэлефанавала адна вучаніца, яна школу больш за 10 гадоў таму скончыла,* – кажа былы дырэктар. – *Я атрымаў мора слоў падтрымкі. Нават ад тых, ад каго не чакаў. А ад тых, ад каго чакаў, – наадварот. У некаторых расчараваўся. Самым нечаканым было, калі мне адзін з былых вучняў прапанаваў працу. Ён мае фірму сваю ў Маладзечне, сказаў мне: «Мы сваіх не кідаем». Хаця які я яму свой, ён даўно ж ужо не вучань. Але такія словы вельмі прыемныя.*

Яўген Васільевіч таксама кажа, што яго ўжо пацяху цягне да дзяцей, хочацца яшчэ папрацаваць настаўнікам. Дырэктарам ужо не, а вось весці ўрокі гісторыі – так.

– *Пра тое, што зрабіў 9 жніўня, я ўсё адно не шкадую,* – кажа Макарэвіч. – *Я ніякага подзвігу не здзейсніў. Усё было рыхтык як напісана ў Выбарчым кодэксе. Я нічога не парушыў.*

*(Радыё Свабода)*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
23 КРАСАВІКА 2021 г.

АТЫ-БАТЫ

## Президент Польши волнуется…

*Президент Польши **Анджей Дуда** созвал заседание с участием Министерства национальной обороны, военных командиров и руководителей спецслужб для обсуждения российской активности на границе с Украиной.*

Об этом заявил руководитель Бюро национальной безопасности Польши **Павел Солох**. *«Вооруженные силы вместе со своими союзниками постоянно контролируют угрозы за пределами нашей восточной границы»*, – отметил Солох.

Глава МИД Украины **Дмитрий Кулеба** на онлайн-встрече с министрами иностранных дел ЕС предложил Евросоюзу подготовить новые секторальные санкции против России на фоне стягивания войск РФ у украинской границы.

ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

## В Бундестаге пройдут срочные слушания по поводу военной активности России

*Парламентские слушания состоятся 22 апреля во второй половине дня.*

*«Эти пленарные дебаты станут важным предупреждением Кремлю прекратить подготовку к новым военным авантюрам и отказаться от политики откровенного запугивания и шантажа»*, – отметил посол Украины в Германии **Андрей Мельник**.

Как сообщалось, фракция ХДС/ХСС, которая является крупнейшей в парламенте Германии, приняла **заявление в поддержку Украины** на фоне угрозы со стороны России.

Кроме того, министр иностранных дел Германии **Хайко Маас** призвал Россию прекратить провокационные действия на границе с Украиной.

БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА

## Сад Івонкі Сурвіллы

*У мінулую суботу канадскія беларусы зладзілі суботнік – прывялі ў парадак сад ля дома Івонкі Сурвіллы, старшыні Рады БНР.*

11 красавіка Згуртаванне беларусаў Канады віншавала спадарыню Івонку з 85-годдзем. Сурвілла жыве ў Квебеку ў невялічкім (па канадскіх мерках) дамку, вакол якога – вялікі сад. Пашанотны ўзрост не дазваляе ёй дасканала даглядаць тэрыторыю, таму суайчыннікі і вырашылі давесці сад да ладу.

На жаль, праз кавідныя абмежаванні (у правінцыі Квебек зараз адначасова разам могуць збірацца не больш за тры чалавекі) усе жадаючыя не змаглі ўзяць удзел у акцыі. Як заўжды, зазірнула суседка Івонкі Сурвіллы Віўен, якая вельмі любіць суполку беларусаў, заўсёды далучаецца да сумеснай працы і да пікнікоў, што ладзяцца потым.

– *Добра папрацавалі!* – распавядае былая мінчанка Ірына. – *А потым доўга размаўлялі з нашай цудоўнай Івонкай. Яна распавяла пра інтэрв'ю, што ў яе бралі апошнім часам, даючы вельмі цікавыя і трапныя характарыстыкі журналістам. Прыязна адклікалася аб Святлане Ціханоўскай.*

*Івонка вельмі любіць свой сад і помніць гісторыю кожнага дрэва. Кажа: "Вось гэту грушу пасадзіў Янка. А вось тут рос персік..." Яна нават прасіла не зразаць старыя засохлыя галінкі – у іх спляценні ёй бачацца выявы і вобразы. Яна так і казала з усмешкай: "Калі ласка, не чапайце мае японскія дрэвы!"*

На памяць прыйшлі радкі з верша беларускага паэта Юрася Шамецькі, які жыве ў Канадзе: *"...хочацца проста жыць, каб глядзець, як хвалююцца дрэвы навокал..."*

У мінулым годзе беларусы пасадзілі ў садзе Івонкі райскую яблыньку ў памяць аб яе дачцэ Паўліне Сурвілле, якая заўчасна пайшла з жыцця год таму. Дрэўца добра перазімавала і гатова распусціцца.

**Аляксандра БАТУРЫНА.**



ВЯЛІКАЯ ПАЛІТЫКА

# Новыя выбары і расследаванне парушэнняў правоў чалавека

*ПАСЕ прыняла рэзалюцыі па Беларусі.*



Пасяджэнне Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы. Фота: assembly.coe.int.

***Парламенцкая асамблея Савета Еўропы прыняла дзве рэзалюцыі па Беларусі: з патрабаваннямі да беларускіх улад пачаць шырокі нацыянальны дыялог, правесці новыя прэзідэнцкія выбары ўжо сёлета і расследаваць шматлікія факты парушэнняў правоў чалавека. Пра гэта піша TUT.BY.***

Праект рэзалюцыі аб тэрміновай неабходнасці правядзення рэформы выбарчай сістэмы ў Беларусі прадстаўляў член ПАСЕ лорд **Дэвід Бленкатра.**

У рэзалюцыі **«Тэрміновая неабходнасць рэформы выбараў у Беларусі»** ўказваецца, што сістэма правядзення выбараў у Беларусі *«стала рухаючым фактарам цяперашняга палітычнага, эканамічнага і праваабарончага крызісу»*.

**Рэзалюцыя заклікае:**

да ўсебаковай рэформы выбараў у Беларусі, якая павінна прывесці выбарчыя законы і практыку ў адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі;

рэформа павінна гарантаваць **незалежнасць і бесстароннасць выбарчых камісій,** стварыць адзіны публічны рэестр выбаршчыкаў, адрэгуляваць датэрміновае галасаванне, забяспечыць празрыстасць падліку галасоў, дазволіць мясцовае і міжнароднае назіранне, усталяваць выразныя і менш жорсткія крытэрыі для рэгістрацыі кандыдатаў, забяспечыць магчымасць судовага абскарджвання ўсіх рашэнняў камісій;

ПАСЕ ўлічвае, што многія беларускія і міжнародныя структуры заклікаюць да **правядзення датэрміновых выбараў на базе існуючага выбарчага заканадаўства.** І падкрэслівае, што *«такія выбары могуць быць прызнаны дастаткова свабоднымі і справядлівымі, толькі калі незалежная і бесстаронняя ЦВК зможа з дапамогай палажэнняў, рашэнняў, распараджэнняў або інструкцый увасобіць у жыццё як мага больш з пералічаных вышэй патрабаванняў, а мясцовыя і міжнародныя назіральнікі змогуць назіраць за ўсім выбарчым працэсам»*;

Рэзалюцыя таксама заклікае *«ўлады Беларусі і ўсе зацікаўленыя бакі тэрмінова правесці шырокі дыялог, каб забяспечыць мірны выхад з крызісу»*.

Бленкатра адзначыў, што рэкамендацыі, прапісаныя ў дакладзе, заснаваны на выніках назіранняў за папярэднімі выбарамі ў Беларусі, паколькі на выбарах у жніўні назіральнікі ад Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы не працавалі.

*«Пры падрыхтоўцы даклада я пастараўся выйсці на ўсе зацікаўленыя бакі, у тым ліку беларускія ўлады. На жаль, улады не адказалі на нашу анкету, яны папросту праігнаравалі маю прапанову аб узаемадзеянні і зносінах. Як адказалі іншыя бакі? Станоўча і канструктыўна, я хачу асабліва падзякаваць грамадзянскай супольнасці Беларусі»*, – заявіў Дэвід Бленкатра.

Аўтар даклада падкрэсліў, што дакумент змяшчае нейтральныя рэкамендацыі. Але гэта не значыць, што Парламенцкая асамблея нейтральна ставіцца да таго, што адбываецца ў Беларусі.

*«Мы не нейтральныя, мы асуджаем тое, што адбываецца, і ў рэзалюцыі гаворыцца пра няздольнасць беларускіх улад забяспечыць рэформу выбарчай сістэмы на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў»*, – заявіў Бленкатра.

Паводле слоў парламентарыя, мэта ўсіх рэзалюцый, якія прымаюць у адрас Беларусі, – забяспечыць новыя выбары ў Беларусі, каб яны былі свабоднымі і справядлівымі.

Праект рэзалюцыі **«Парушэнні правоў чалавека ў Беларусі патрабуюць міжнароднага расследавання»** прадставіла сябра ПАСЕ **Аляксандра Луі**, якая заявіла, што барацьба з беспакаранасцю – прынцыповае пытанне і Савет Еўропы павінен пасланць выразны сігнал тым, хто парушае правы чалавека, даць ім зразумець, што яны будуць адказваць за свае дзеянні.

У рэзалюцыі **«Парушэнні правоў чалавека ў Беларусі патрабуюць міжнароднага расследавання»** падкрэсліваецца, што *«мірныя пратэсты пасля фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў 9 жніўня 2020 года былі жорстка задушаны рэжымам Аляксандра Лукашэнкі, а многія пратэстоўцы былі арыштаваны і падвергліся катаванням»*. Рэзалюцыя паказвае, што тыя, хто мае дачыненне да падобных парушэнняў правоў чалавека, не былі прыцягнуты да крымінальнай адказнасці.

**Рэзалюцыя заклікае:**

- улады Беларусі павінны ўступіць у дыялог з народам. І падкрэслівае, што дыялог *«з'яўляецца адзіным шляхам спыніць гвалт і парушэнні правоў чалавека і правесці новыя дэмакратычныя выбары, каб выйсці з палітычнага крызісу»*;
- **вызваліць усіх палітвязняў, неадкладна спыніць катаванні і бесчалавечнае абыходжанне** з апанентамі рэжыму;
- завесці крымінальныя справы супраць тых, хто здзяйсняе злачынствы супраць беларускага народа;
- з боку Савета Еўропы прапанаваць Беларусі далучыцца да Еўрапейскай канвенцыі аб папярэджанні катаванняў і бесчалавечных або прыніжаючых годнасць відаў абыходжання і пакарання;
- Савет Еўропы павінен патрабаваць у сваіх адносінах з Беларуссю неадкладнага вызвалення ўсіх палітычных зняволеных і спынення кампаніі рэпрэсій супраць пратэстоўцаў і іх сем'яў, а таксама паставіць гэтае патрабаванне ў залежнасць ад любога тэхнічнага супрацоўніцтва і любога руху на шляху да магчымага ўступлення Беларусі ў Савет Еўропы;
- вывучыць магчымасці выкарыстання Савета Еўропы ў якасці пасрэдніцкай платформы для дыялогу паміж уладамі і апазіцыяй.

*«Мы ўжо бачылі, што судовы апарат Беларусі не здольны да правасуддзя і палітычна стрымліваецца, таму прадстаўнікі сіл правапарадку да гэтага часу не пераследуюцца па законе, нават калі яны забілі чалавека. Наадварот, пераследуюцца ўрачы, адвакаты, праваабаронцы і журналісты, якія спрабуюць задакументаваць такія дзеянні»*, – заявіла Аляксандра Луі.

Вызваленне лідараў апазіцыі, журналістаў і мірных дэманстрантаў павінна стаць прыярытэтам Савета Еўропы.

ГОЛАС З ЭМІГРАЦЫІ

# «Большасць з нас марыць вярнуцца ў свабодную Беларусь...»

*У польскай агламерацыі Труймяста – Гданьск–Гдыня–Сопат – на беларускія акцыі пад бел-чырвона-белымі сцягамі выходзяць сотні людзей. Нашы землякі паказваюць прыклад салідарнасці з радзімай. Гродзенец **Ігар Жэрдзік** расказаў «Народнай Волі» пра жыццё ў вымушанай эміграцыі ў польскім Памор'і.*

### «У Гродне заставацца не маглі...»

Ігар Жэрдзік (прозвішча зменена па яго просьбе) у жніўні 2020 года выходзіў на акцыі пратэсту ў Гродне і спадзяваўся, што хутка наступяць перамены. Ён будаўнік з вышэйшай адукацыяй, працаваў адразу ў дзвюх фірмах, але ніводная з іх не мела заказаў. Пасля таго як пачаліся масавыя затрыманні і суды, Ігар разам з жонкай Аленай у верасні вырашылі пакінуць Беларусь.

– *Мне было прасцей на гэта рашыцца – я прывык па камандзіроўках ездзіць,* – распавядае Жэрдзік. – *А вось жонка плакала – не хацела пакідаць маці і дзвюх сясцёр.*

Праўда, у Гданьску ўжо жыла іх малодшая дачка, туды ж з Мінска накіроўвалася і старэйшая з мужам.

### З працай і жыллём усё вырашылася адразу

Там Ігара ўжо чакалі знаёмыя будаўнікі з Гродна, якія працавалі на розных аб'ектах. Працу яму шукаць не давялося – ехаў, ужо маючы запрашэнне ад польскай будаўнічай фірмы.

– *Ніякай асаблівай бюракратыі з уладкаваннем не было. Нават спяцоўку мне адразу выдалі менавіта таго памеру, які я ўказваў у анкеце,* – распавядае мужчына.

На будоўлі працуюць пераважна беларусы, прычым у асноўным з Гродна, хаця ёсць і з іншых гарадоў, нават з Крычава, што на Магілёўшчыне.

Ігар з жонкай знялі двухпакаёвую кватэру, праз некалькі дзён да іх прыехала старэйшая дачка з мужам, і цяпер жывуць усе разам. Давялося пасля прыезду 10 дзён пабыць на каранціне. Дарэчы, у Польшчы з гэтым вельмі строга, правяралі па некалькі разоў на дзень. За кватэру плацяць 2100 злотых у месяц.

– *Я ў дзень зарабляю 180 злотых – 50 долараў. Працуем па 10 гадзін, адзін выхадны. Муж дачкі ўладкаваўся на дастаўку прадуктаў з крамы. У яго падчас пандэміі заробак штодня даходзіць да 300 злотых,* – канстатуе Ігар.

Трэба сказаць, што многія харчовыя прадукты ў Гданьску значна таннейшыя, чым у Беларусі (даражэй каштуюць толькі цыгарэты і гарэлка). А таму на пражыццё заробку хапае.

Жонка Ігара працы пакуль не знайшла, хаця час ад часу бываюць нейкія падпрацоўкі. Спадзяюцца на тое, што пасля пандэміі ўладкуецца.

– *Горад турыстычны, і працы тут шмат,* – разважае Ігар. – *Чакаем, што к восені, калі ўсіх прышчэпяць ад каранавіруса, нешта зрушыцца. Тым больш што ў жонкі добрая польская мова.*

### «На акцыі выходзім сем'ямі»

Беларусы, якія жывуць у Труймясце, звычайна знаёмяцца на акцыях у цэнтры Гданьска ля помніка Нептуну. Цяпер яны ўсе маюць зносіны праз сацсеткі. І кожную нядзелю, нягледзячы на пандэмію, сем'ямі выходзяць да Нептуна з бел-чырвона-белымі сцягамі. На акцыі часам збіраецца да трохсот чалавек.

Найбольш актыўная частка беларусаў – гэта моладзь, якая вучыцца ў Польшчы. Іх заўсёды шмат, яны прыходзяць са сцягамі, прапаноўваюць праграму акцый.

Вельмі значны адсотак беларусаў у Гданьску, паводле слоў Ігара, гэта палітычныя ўцекачы. Менш тых, хто прыехаў сюды ў сілу эканамічных прычын.

– *Мы прыехалі сюды не ад добрага жыцця,* – гаворыць Ігар. – *Мы прыходзім на акцыі, каб паказаць сваё стаўленне да Лукашэнкі, а таксама выказаць салідарнасць з усім беларускім народам, які змагаецца супраць рэжыму.*

І яшчэ з назіранняў Ігара: абсалютная большасць тых, хто жыве і працуе ў Гданьску, мараць вярнуцца ў свабодную незалежную Беларусь.

### «Дзякуй палякам за салідарнасць»

Падчас беларускіх акцый паліцэйскія прасілі, каб такія мерапрыемствы былі ўзгоднены з гарадскімі ўладамі. Дэлегацыя хадзіла да мэра Гданьска, продкі якога, як высветлілася, паходзяць з Гродна. Ён без усякай бюракратыі даў дазвол на беларускія акцыі, а таксама прапанаваў памяшканне, каб беларусы маглі там збірацца і праводзіць свае мерапрыемствы.

– *Ён заахвоціў жыхароў Гданьска сабраць гуманітарную дапамогу для беларусаў, якія ў сілу вядомых абставін апынуліся ў іх горадзе,* – распавядае Ігар. – *Людзі прыносілі не толькі адзенне і абутак, а і бытавую тэхніку, харчаванне. Такое ўражанне было, што адклікнуўся ўвесь горад.*



На беларускай акцыі ў Гданьску.

І яшчэ адно моцнае ўражанне майго суразмоўцы: вельмі шмат палякаў прызнаюцца, што іх карані паходзяць з беларускіх земляў, маўляў, бабуля з дзядулем пасля вайны пераехалі ў Польшчу.

– *Шмат палякаў падыходзяць на акцыях, размаўляюць, цікавяцца, падтрымліваюць,* – канстатуе Ігар. – *І за гэта мы ім вельмі ўдзячны.*

На 25 сакавіка беларусы з Труймяста пашылі сцяг даўжынёй 80 метраў і прайшлі з ім па вуліцах трох гарадоў. Дарэчы, беларускія жанчыны шылі гэты сцяг ці не ўсю ноч. Было сапраўднае свята, беларусаў вельмі цёпла падтрымалі палякі.

– *Многія ішлі з намі ў калоне,* – згадвае гродзенец. – *Далучаліся людзі самых розных узростаў. Больш сталыя нават распавядалі, як самі ўдзельнічалі ў «Салідарнасці». Лозунг «Жыве Беларусь!» разам з намі крычалі і палякі.*

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
23 КРАСАВІКА 2021 г.

АДЛУП

# Як славутая спартсменка паставіла на месца чыноўніка

*Баскетбалістка Алена Леўчанка дала параду старшыні Беларускай федэрацыі баскетбола Максіму Рыжанкову: «Зрабіце карысную справу – заставайцеся ў сваёй палітыцы і не лезьце ў спорт».*

Днямі першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта **Максім Рыжанкоў** быў пераабраны кіраўніком Беларускай федэрацыі баскетбола.

*«Калі надакучу, то вы скажыце – пакіну пасаду»,* – сціпла заявіў пры гэтым чыноўнік. – *Але не хацелася б...»*

Таксама Рыжанкоў прызнаўся, што расчараваны дзеяннямі капітана зборнай **Кацярыны Сныцінай**, якая вядома сваёй грамадзянскай пазіцыяй і адмовілася выступаць за нацыянальную каманду.

*«Глыбока расчараваны дзеяннямі Сныцінай,* – распавёў кіраўнік федэрацыі pressball.by. – *Як капітан яна павінна была ўзважана і разумна падыходзіць да выказванняў на палітычныя пытанні, разумець, як гэта можа адбіцца на зборнай. Мая пазіцыя такая: пакладзі мандат, і тады ты вольны ў выказванні сваіх поглядаў.*

*Тое ж самае тычыцца і былога намесніка старшыні федэрацыі Ягора Мешчаракова. Для мяне пака-*




*зальным стала прызнанне Сныцінай, што ў калектыве падтрымкі яна не знайшла. Значыць, расколу не адбылося, каманды дух не згублены, на чэмпіянаце Еўропы зборная здольная выступіць паспяхова».*

Пасля гэтага функцыянеру дала добры адлуп славутая беларуская баскетбалістка **Алена Леўчанка**, якая зараз выступае за грэчаскі «Панацінаікас».

*«За апошнія пяць гадоў вы, спадар Рыжанкоў, развалілі жаночы баскетбол!* – эмацыйна выказалася спартсменка. – *Медалі мы заваёўвалі* ***да вас****, і ў эліце сусветнага баскетбола мы апынуліся* ***да вас****!*

*А што зрабілі вы? Вы ганарыцеся і прыпісваеце сабе нашы дасягненні, але «прыбралі» ўсіх, хто зрабіў свой унёсак у гэтыя дасягненні. Вы ніколі ў жыцці не гулялі ў гэты від спорту, але занялі пасаду кіраўніка федэрацыі і сталі затыкаць рот непажаданым і нязгодным. Нацыянальная зборная не выйшла з групы на двух апошніх чэмпіянатах Еўропы, не адабралася на чэмпіянат свету і на Алімпіяду. Вы звольнілі галоўнага трэнера Анатоля Буяльскага, таму што ён нібыта не абнаўляў зборную. Прайшло пяць гадоў, і што ж змянілася? Нічога!*

*Таму, калі вы загаварылі пра «расчараванне» Кацярынай Сныцінай і Ягорам Мешчараковым, то, скажу шчыра, для мяне адзінае расчараванне ў гэтай гісторыі – гэта* ***ВЫ****!*

*Выказваць сваё меркаванне – гэта права кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, гарантаванае нам усім Канстытуцыяй краіны. І незалежна ад таго, капітан ты ці не капітан, дырэктар лазні ці проста рабочы або банкір, – кожны мае права на сваё меркаванне.*

*Мы – не рабы. Гэта сістэма хоча зрабіць нас рабамі. Таму што вам патрэбны толькі пакорлівыя, маўклівыя спартсмены, якія стукаюць мячамі, ходзяць на Усебеларускі народны сход, ківаюць галавой і падпісваюць праўладныя лісты. І рэальнасць, на жаль, такая, што вы знайшлі тых, хто гатовы гэта рабіць. Але сапраўдны каманды дух, які вы згадваеце, грунтуецца не на гэтым. Камандны дух – гэта калі адзін у камандзе стаіць гарой за іншага. Таксама і федэрацыя павінна ўмець падтрымаць і паставаць за сваіх. Каму як не дыпламатам пра гэта ведаць! А, мяркуючы па вашых учынках і выказваннях, вы паняцця не маеце пра тое, што такое камандны дух.*

*І напрыканцы: бачу, што вы любіце раздаваць парады. Тады і вам дам адну добрую параду: зрабіце карысную справу – заставайцеся ў сваёй палітыцы і не лезьце ў спорт. Гэта будзе самае лепшае, што вы можаце зрабіць для беларускага баскетбола. Краіна вас не забудзе!»*

Алесь СВЯТЛАНІЧ.

НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ!

# Да перамогі адзін крок

*Прагноз святара пра перамены ў Беларусі*

«Часта пытаюцца ў мяне: так што ж будзе з Беларуссю, ці можна чакаць чаго добрага, бо мы не бачым перспектывы перамогі дабра, але з роспачу канстатуем няспынную хвалю рэпрэсій з боку рэжыму Лукашэнкі, – *напісаў ксёндз* ***Вячаслаў Барок*** *для kryniса.info.* – Ведаеце, я як святар з упэўненасцю магу сказаць адно: ўсталяваны рэжым у Беларусі не мае будучыні, і асабіста я ўжо цяпер бачу яго агонію. Чаму бачу так і не інакш? Толькі таму, што ўся гэтая дзяржаўная сістэма збудавана на хлусні, і гэтага мне дастаткова, каб сказаць, што прыхільнікам такога развіцця падзей перамога не свеціць. У гэтым свеце цешыцца славай перамогі можна тады, калі бярэш удзел у тым, што паходзіць ад Бога. *«Бо ўсё, што народжана ад Бога, перамагае свет»* (1Ян 5,4). Хлусня, якая праявілася як вынік прынцыповага нежадання ўлады не лічыць галасы на выбарах, не можа паходзіць ад Бога, бо ад Бога праўда і справядлівасць. А значыць, і сістэме гэтай наканавана цярпець крах.

Чаму ж тады, калі ад Бога праўда і справядлівасць, а Бог перамог свет, тыя, хто выказаўся за гэтыя каштоўнасці, сёння рэпрэсаваны? Чаму ж мы не назіраем перамогі праўды?

Тут таксама ўсё проста. Каб убачыць перамогу праўды, нам засталося зрабіць усяго толькі адзін крок! Трэба перамагчы свой унутраны страх. Пакуль жывеш у страху, ніколі не будзеш свабодны. У свеце можа даўно змяніцца сітуацыя, і ўжо могуць дзьмуць вятры перамен, прыносячы паветра свабоды і разганяючы застаялы смурод хлусні, а ты і надалей, калі не вызваліўся ад сваіх страхаў, гэтага не ўбачыш і не адчуеш, бо будзеш заставацца рабом.

Ведаеце, наша грамадства сёння падобна да супольнасці апосталаў пасля ўваскрашэння Ісуса. Іх настрой евангеліст Ян апісвае так: *«Дзверы дома, дзе збіраліся вучні, былі замкнёныя ад страху перад іўдзеямі» (Ян 20,19).*

Заўважце, апостал Ян піша: калі перамога дабра над злом ужо адбылася, жыццё перамагло смерць, праўда ўзяла верх, у гэты час вучні ўсё яшчэ сядзелі, зачыніўшыся, як тыя хто пацярпеў жыццёвую паразу. Чаму так?

Яны ж наогул не былі вінаватыя. Яны нічога кепскага не зрабілі, каб хавацца. Іх «віна» была толькі ў тым, што яны паверылі ў словы Ісуса: Валадарства Божае наблізілася. Яны паверылі, што жыццё можна збудаваць на каштоўнасцях праўды і справядлівасці, і пайшлі за Ісусам.



Але ж вядома: Ісуса схапілі, судзілі і ўкрыжавалі. Апосталы не разумелі таго, што дзеялася вакол. Быць можа, не разумелі таксама і таго, як сталася магчымым, што народ у адзін момант называў Ісуса царом, а ў іншы момант крычаў: «Укрыжуй яго!» Народ праз свае крыкі з патрабаваннямі прысуду і маўклівае назіранне за расправай над Ісусам распісаўся ў злачынстве.

Але ж гэта ўсё ўжо было ў мінулым, бо, нягледзячы на ўсё гэта, перамога Ісуса адбылася, а апосталы былі ў страху. Чаму так? Бо вучні самі яшчэ не паверылі ў перамогу Ісуса.

І вось тут і ёсць лёсавызначальны пункт. Наша вера. Яна, як кажа Ян, і ёсць *«перамогай, якая перамагла свет»* (1Ян 5,4). Нам трэба паверыць у Ісуса, у перамогу дабра, у перамогу Бога над светам. *«Хто ж перамагае свет, калі не той, хто верыць, што Ісус ёсць Сынам Божым?»* (1Ян 5,5). Вядома, там, дзе ёсць вера, больш не будзе месца для страху.

Калі пазбавімся страху, то зможам не толькі захапляцца дзіцячай непасрэднасцю 13-гадовай дзяўчынкі, якая спантанна, з патрэбы сэрца на асфальце напісала адно слова «Жыве» і за гэта трапіла на дзве гадзіны ў міліцэйскі пастарунак, а яе маці прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці; але зможам асягнуць прынцыпова іншы, больш якасны ўзровень жыцця.

Улада дарослых, якая баіцца свабоды дзяцей і зацята змагаецца з дзіцячым жаданнем жыць, не мае будучыні.

Апосталы перажылі шмат, але няхай будзе вядома вам, што калі яны пазбавіліся страху, то Ісус дазволіў ім не толькі сярод іўдзеяў прапаведаваць, але і ва ўсім свеце. Зрэшты, праўда Евангелля стала мацнейшай нават за сілу легіёнаў Рымскай імперыі. Рым рухнуў так, як і руйнаваліся Богам муры турмы, за якія траплялі не раз апосталы за прапаведаванне праўды (пар. Дз 16,26). А вось хрысціянства далей існуе. І далей ёсць тыя, хто сваім прапаведаваннем сёння кажа: страх можна перамагчы.

Не бойцеся! Хрыстос сапраўды ўваскрос. Ён нішчыў муры турмы апосталаў, знішчыць і муры турмы, за якімі сёння сядзяць вязні сумлення.

Я малюся, каб Хрыстос прынёс нам мір і супакой. А гэта будзе тады, калі будзем мець веру ў Бога, праўду і справядлівасць».

ПЕРЕД СОБЫТИЕМ

# Оперная дива выступит в Минске за символический гонорар. И всё благодаря своей бабушке



Одна из самых востребованных звезд мировой оперной сцены, солистка Мариинского театра меццо-сопрано Екатерина СЕМЕНЧУК выступит в Большом театре Беларуси 25 апреля. В память о 35-летии со дня Чернобыльской трагедии прозвучит «Реквием» – гениальная траурная месса Дж.Верди.

Но как же заполучил наш Большой такую знаменитую певицу, одну из лучших исполнительниц вердиевских партий? Причем, как удалось узнать из самых достоверных источников, за символический гонорар, который примерно в пятьдесят раз меньше обычного. А все благодаря горячим родственным узам. В Минске живет бабушка певицы. И Екатерина, кстати, уроженка Минска, заключая контракт, так и сказала, что давно мечтает, чтобы бабушка увидела ее на сцене.

Впрочем, этот лирический штрих никак не снижает общего высокого пафоса и профессионального уровня предстоящего концерта, потому что весь состав солистов «Реквиема» – это великолепные белорусские певцы, завоевавшие признание в мире, выступающие за границей на лучших театральных площадках: сопрано **Надежда Кучер**, бас **Александр Рославец**, тенор **Павел Петров**. Не говоря уже о том, что хор Большого театра – это тоже солист: под управлением хормейстера народной артистки **Нины Ломанович** коллектив всегда исполняет это произведение Верди с большой внутренней страстью – как молитву. За дирижерским пультом встанет молодой и пылкий маэстро **Дмитрий Матвиенко** – большая надежда Большого.

Елена МОЛОЧКО.

ЧУЛІ?

# Палітзняволеную Вольгу Класкоўскую пазбавілі перадач ад бацькоў за адмову шыць форму сілавікам

Пра гэта Класкоўская распавяла ў лісце да маці: *«Дарагая мамачка, сёння мяне пазбавілі прадуктовай пасылкі за адмову шыць форму для сілавікоў. Так што тое, што ты мне дасылала, хутка вернецца табе назад. Такія вось метады. Няма слоў. Калі я на доўгі час знікну (не будзе ні лістоў, ні званкоў), значыць, я ў ШІЗА».*

Раней Вольга паведамляла, што разам з Наташай Хершэ адмовілася шыць вопратку для сілавікоў: *«Пакуль што ў мяне статус вучня на швейнай фабрыцы, шыю нейкія дробныя рэчы, якія не звязаны з асноўнай вытворчасцю (вайсковай формай), але што будзе далей, не ведаю».*

*«Я ні пра што не шкадую, і я ніколі не прагнуся пад гэтай сістэмай, прайду праз усе выпрабаванні і ніколі не адмоўлюся ад сваіх перакананняў, як бы цяжка ні давялося. Усё міне, а праўда застанецца».*

Нагадаем, 22 снежня мінулага года ў Ленінскім судзе Мінска Вользе Класкоўскай прысудзілі два гады калоніі за перакрыццё дарогі ў Серабранцы 13 кастрычніка мінулага года.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
23 КРАСАВІКА 2021 г.

ЧАРНОБЫЛЬСКІ ЛЁС

# Як рэанімавалі адселеную вёску Савічы і чым гэта завяршаецца


Хаты на галоўнай вуліцы ў Савічах.

За 35-гадовую гісторыю пасля Чарнобыля вёска Савічы Брагінскага раёна перажыла нямала ўзрушэнняў. У маі 1986-га адсюль адсялілі 373 сям'і разам з саўгасам «Савічы». Тутэйшыя мясціны моцна засыпала не толькі цэзіем, але і стронцыем. Вёска апусцела і, здавалася, назаўсёды знікла. Трохпавярховую школу часова аддалі батальёну в/ч 3214, які ахоўваў 30-кіламетровую зону ЧАЭС ад толькі што адселеных у спешцы на некалькі дзясяткаў кіламетраў былых жыхароў ды аматараў пажывіцца ў «зоне» кінутым людскім дабром. Памятаю, камандзіры паказвалі мне спецыяльную сістэму сігналізацыі, акурат такую, што выкарыстоўвалі памежнікі. Называлася яна, здаецца, «Сава». Тонкая нітка меднага дроту, прыўзнятая над зямлёю, хавалася між кустоўя і высокай травы, агібаючы апусцелыя вёскі Стары і Новы Сцепаноў ды іншыя суседнія паселішчы, што пазбавіліся жыхароў з-за высокай радыяцыі.

Ніводная вёска за тым медным дротам не адрадзілася, а ў Савічы патрохy сталі вяртацца жыхары. У сярэдзіне 1990-х гадоў тут ужо жылі больш за паўтары сотні самасёлаў. Улады давалі надзею, што радыяцыю перасіляць, вёска адродзіцца.

Цяпер у Савічах засталіся апошнія адзінаццаць жыхароў. Апусцелыя падворкі пры ўездзе закапалі не так даўно ў дол. А тыя, што засталіся на доўгіх вуліцах Леніна ды Перамогі, выглядаюць прывідамі – зараслі быльнягом, дзікім хмелем, кустоўем ды ладнымі дрэвамі. І толькі сем хацін яшчэ свецяцца вокнамі сярод гэтай нематы і запусцення.

## «Няма інтарэсу жыць – можна анямець»

Вечарамі ў сярэдзіне вёскі на былой галоўнай вуліцы Леніна (дзе толькі не славілі бальшавіцкага ідала!) святло запальвае ў сваёй хаціне **Кацярына Чэчка**. Ведаю кабету даўно, як і гісторыю ўцёкаў яе сям'і ад чарнобыльскай радыяцыі.

Кацярына нарадзілася і вырасла ў Савічах. Тут і замуж пайшла, і пяцёра дзяцей нарадзіла. Але жыццё з першым мужам не задалося. Калі дзеці падраслі, пара афіцыйна развялася. Кацярына выйшла замуж другі раз – у вёску Залессе, што цяпер у 30-кіламетровай зоне вакол ЧАЭС. Тут і напаткала новую сям'ю жанчыны чарнобыльская эвакуацыя.


Кацярына Чэчка.

– Выселялі нас, – згадвала неяк Кацярына Маркаўна, – *у велікодную ноч 1986 года. Ужо такіх жахаў нацярпеліся, што не дай табе божа. Усё пакідалі – і велікодныя стравы, і маёмасць. Можна сказаць, у адной адзежыне, што на нас была, і паехалі.*

Спяршa калгаснікаў з Залесся перавезлі ў Вуглы – вёску, што на поўначы Брагінскага раёна. Там перасяленцы туліліся па хатах вяскоўцаў да самай восені. Кацярына даглядала жывёлу, перавезеную з іхняга калгаса, а муж яе працаваў зварщчыкам. Набліжаліся халады. Перасяленцы кінуліся да мясцовых кіраўнікоў: «Дзе ж нам зімаваць?» Ну і парастыркалі іх тагачасныя ўладныя кіраўнікі каго куды.

Кацярына з мужам і дзецьмі апынуліся ў вёсцы Шкава Акцябрскага раёна. Тры зімы там перабылі, а пасля вярнуліся ў Савічы. Тут ужо было за сотню самасёлаў.

– *Калі яшчэ жылі ў той Шкаве,* – успамінала Кацярына, – *то ездзілі адтуль на грузавіку ў зону, у наша Залессе, збожжа забіраць, якое засталося на складзе. У Шкаве не было чым сеяць, дык прыязджалі. І не адзін раз. Вось еду я праз Савічы – і сэрца разрываецца: свае, родныя мясціны. Тут вакол хоць і радыяцыя, але, здавалася, дыхаецца лягчэй.*

На чацвёрты год Кацярына з Іванам прадалі ў Шкаве свой дом, выдзелены ім як перасяленцам, і перабраліся ў Савічы. Нагледзелі на галоўнай вуліцы кінутую хату, пасяліліся, завялі гаспадарку – ад парасят да кароvы. А яшчэ з вясны ў вясну абраблялі соткі, каб на доўгую зіму ўсё было сваё – і гуркі ў слоіках, і памідоры, і бульба з буракамі. Нават кавуны сеялі, якія тут паспяваюць набраць за лета асолоду. І радыяцыі таксама.

Увесну 1996 года ў Савічы да чарнобыльскіх самасёлаў прыязджаў Аляксандр Лукашэнка. Мясцовую краму тады вычысцілі, навезлі харчоў, прамысловых ды гаспадарчых тавараў. Сабралі да крамы ледзь не ўсіх самасёлаў. Падвезлі нават вяскоўцаў з суседніх вёсак. Поўная вуліца сабралася.

Тут Лукашэнка і агучыў новы падыход да пражывання грамадзян на заражаных радыяцыяй тэрыторыях: «Хочаце жыць – жывіце!» І распарадзіўся даць у падмогу самасёлам камбайн і трактар – пад вокплескі і ўхвалу прысутнай грамады. Тагачасны міністр аховы здароўя Інеса Драбышэўская, якая таксама была ў той паездцы, аж жахнулася ад такой рэакцыі: «Жанчыны, пра сябе, пра дзяцей падумайце!» Развага міністра, урача-анколага па прафесіі, патанула ў нейкім зухаватым гуле: «Радыяцыя нас не бярэ! Мы тут адаптаваліся». Але прамінулі якія два дзесяцігоддзі, і ад ранейшага энтузіязму не засталося ані знаку. Краму зачынілі, а пасля будынак наогул знеслі.

Камбайн той з трактарам, што Лукашэнка даў, дзяржаўнае сельгаспрадпрыемства «Чамярыскі» (зараз ужо ААТ) адразу забрала ў Хракавічы – за 25 вёрст ад Савічаў. А неўзабаве вялікая тэхніка самасёлам наогул не прынадзілася: араць ды засяваць ладныя плошчы яны ўжо не маглі, а з гародамі ды бульбянымі соткамі каля хат спраўляліся конікам альбо матаблокам – наймалі прыватніка з Грушнага ці Прасмычоў.

## «Паганая гэта хвароба»

Муж Кацярыны пасля пераезду мала пажыў, неспадзявана памёр. Што з ім здарылася, жанчына і дагэтуль дакладна не ведае. Многія іншыя самасёлы таксама, як кажа Кацярына, «адчэзлі». Перасяліліся ў свае вечныя хаціны ў канец вуліцы Леніна, дзе ў Савічах здавён знаходзіцца пагост. Паўміралі нават адносна маладыя.

– *Паганая гэта хвароба ў лёгкіх была,* – зазначае Чэчка.

Зараз у вёсцы засталося толькі адзінаццаць самасёлаў з былых амаль двухсот – тых, хто імкнуўся пры падтрымцы ўлад «рэанімаваць» Савічы пасля чарнобыльскай катастрофы.

Кацярына палічыла аднавяскоўцаў, можна сказаць, па пальцах. Рукі і тулава ў яе моцна трасуцца, а вочы вільгатнеюць:

– *Сама я ўжо ледзьве тупаю. Ногі вельмі баляць, задышка мучыць. Ужо ні дроў прынесці не магу, ні ў склепік па бульбу спусціцца. Каб не сын Грышка, то мяне ўжо даўно не было б на гэтым свеце,* – скрушна дадае кабета.

Чэчка апошнім часам моцна хварэе. Перыядычна выклікае з Брагіна хуткую дапамогу – добра, што стацыянарны тэлефон ёсць у хаце. Крыху раней жанчына тры месяцы з невялікім перапынкам ляжала ў Гомелі ў анкалогіі. Цэлы букет усяго пазнаходзілі. Пасля гэтага праходзіла стацыянарнае абследаванне ў райбальніцы дзеля збору медыцынскіх дакументаў на вызначэнне групы інваліднасці. Але на гэтым усё заціхла, быццам нічога і не было.

– *8 сакавіка мне споўніўся 81 год,* – дзеліцца сваімі клопатамі Кацярына. – *І па ўзросце, і па стане здароўя мне належыць мець сацыяльнага работніка па доглядзе. Была неяк у Брагіне ў лекара. Заклыпала і ў сацыяльную службу райвыканкама ды расказала ім пра сваю бядзіцу. Кажу, што сын найлепш мяне дагледзіць – ён і жыве побач, і працы не мае. Яго б аформіць па доглядзе. Дык мне адказваюць: на гэта ў іх няма грошай.*

Забягаючы наперад, дадам, што па вяртанні з Савічаў я таксама заходзіў ва ўпраўленне працы, занятасці і сацыяльнай абароны. Заспеў там намесніцу начальніцы Людмілу Данчанку. Яна надта не хацела нічога казаць на дыктафон, раіла звярнуцца да старшыні райвыканкама Кохана, каб той даў дазвол на размову з ёю. Урэшце паведаміла, што Кацярыне Маркаўне трэба падаць ва ўпраўленне медыцынскую даведку аб тым, што яна мае патрэбу ў доглядзе. У такім разе нават да вызначэння групы інваліднасці ўпраўленне мае права афіцыйна прызначыць сына цягам шасці месяцаў даглядаць маці – з адпаведнай аплатай працы.

Але гэта будзе пазней, а пакуль Кацярына, абапіраючыся на тронак агароднага сякачыка, пацыху тупае па двары і расказвае, што з дапамогай сына мае сёлета «*і картоплю пасадзіць, і памідоры, і моркву з бурачкамі*». Пра кавуны таксама згадвае. У гародзе ажылі трускалкі, шчаўе паднялося, цыбуля зелянее.

– *Доўга я ўжо не пражыву, але ж трэба сеяць, бо без сваёй гародніны і бульбіны нам з Грышам не выжыць. Мы ж, лічы, на маю пенсію ўдваіх жывём. Аўталаўка прыедзе – купім сабе што па патрэбе, а гародніна свая, і перабіваемся так з дня на дзень. Ужо няма інтарэсу жыць – можна анямець у гэтай пустэльні,* – з яўнымі ноткамі маркоты зазначае кабета.

Накoнт радыяцыі Чэчка не турбуецца з фатальнага жыццёвага прынцыпу: «А дзе яе цяпер няма?!» У адзін з прыездаў жанчына распавядала, што да яе наведваліся навукоўцы з Гомельскага інстытута радыялогіі, замяралі ўсё на гародзе, зямлю на аналіз бралі. Казалі, што ўсё добра. Паперчыну нават пакінулі. А добра яно ці кепска, Кацярына не разбіраецца. Нехта нават пагалоску пусціў, што колішні дырэктар саўгаса зямлю браў бліжэй да Чарнобыля – у Пірках, у Залессі – і адпраўляў на аналіз: гэта каб Савічы адсяліць і самому на гэтай бядзе кішэні набіць. Баяўся выкрыцця, дык калі з'ехаў з вёскі на Гродзеншчыну, то там і засіліўся. Кіроўца нібыта ўсё і расказаў, як дырэктара не стала. А ў Савічах саўгас добры быў, насельніцтва. І людзей за паўтары тысячы было.

## Пра радыенукліды і бекерэлі

У Кацярынінай хаце, убранай вышыванкамі, дыванкамі, занавескамі, фотаздымкамі сваякоў, дзяцей і ўнукаў, адшукалі інстытуцкую паперчыну з вынікамі даследаванняў гародніны на радыяцыю. Даты і подпісу адказнага за вынікі даследавання супрацоўніка на паперчыне не было. Толькі назва гародніны і ўзровень у ёй радыенуклідаў. Зялёнае шчаўе: цэзій-137 – 11 бекерэляў на кілаграм, стронцый-90 – 50,7 бекерэля, калій-40 – 155,1 бекерэля, буракі адпаведна: 0,61, 23, 113,7, морква: 1,07, 17,9 і 14,3 бекерэля. У даведцы да замераў сказана, што нормамі РДУ спажыванне гародніны дазваляецца пры ўтрыманні радыенуклідаў цэзію да 100 бекерэляў на кілаграм, а стронцый-90 і калій-40 не нармаваныя. Мауляў, ежце на здароўе, нягледзячы на тое, што радыяцыі ў такой гародніне хоць адбаўляй, і асабліва стронцыю, які, асядаючы ў касцях, па сутнасці, не выводзіцца з арганізма.

## У аблозе

Жыццё Кацярыны Чэчкі ў адселеных Савічах не было нейкай лёгкай прагулкай па апусцелай вёсцы. Хутчэй наадварот. Перажыла жанчына і аблогу дзікоў, і нават напад шалёнай ваўчыцы. Спусташальныя нашэсці дзікоў на агароды самасёлаў у апошнія гады суцішыліся. Нямала дзікоў пастралялі з прычыны свіной чумы, а да таго часу яны цэлымі статкамі хадзілі па гародах вяскоўцаў у бліжэйшых да радыяцыйна-экалагічнага запаведніка вёсках.

Неяк прачнулася Кацярына ўранку, а ў агародзе рыюцца каля дзясятка дзікоў. Клікнула сына: «Грыша, ідзі глядзі, можа, рэзаць будзем – свежаніна сама ў двор прэцца».

Тыя дзікі праз узведзеную агароджу пралезлі, парыліся каля хаты – і на галёканне гаспадыні шуганулі назад на выхад. Аднак далёка не ўцякалі. За гародам пад высокім дрэвам гразюка была, як бы копанка такая. Яны залезлі ў тую копанку і ляжалі ў халадку, пакуль зноў не напудзілі. Спасу не было ад гэтых лясных «арат». Ратаваліся як маглі: абнеслі гарод дзе дошкамі, дзе шыферам, дзе дротам. Перыядычныя нашэсці дзікоў не спыняліся ажно да іх маштабнага адстрэлу.

Аднойчы зімой у Савічы ды іншыя паселішчы, прылеглыя да радыяцыйна-запаведніка, панадзіліся ваўкі. Сітуацыя ўскладнялася тым, што нярэдка шэрыя драпежнікі хварэлі на шаленства і нападалі на людзей сярод белага дня.

– *У тую зіму,* – расказвала Кацярына, – *мы хадзілі ў краму па хлеб у суседнюю вёску Двор Савічы. Аўталаўка да нас тады не ездзіла – зіма, замець. Да крамы той у Дварах не так і далёка, кіламетра паўтара. Іду я, іду – нідзе нікога не відаць. Аднекуль зыянацку вылецеў ці то воўк, ці то ваўчыца і як грызяне мяне ніжэй спіны. Я спужалася, як анямела. Воўк ускочыў на плечы, на галаву, пачаў рваць. Хустка на мне была такая пуховая, а пад ёй яшчэ адна. Гэта трохі і ратавала. Я ўпала ад наскоку, пачала крычаць. Крычала немым голасам, і драпежнік адстаў.*

Чэчка дабіралася дадому, як у сне. Ёй выклікалі праз тэлефон хуткую дапамогу. Апамяталася жанчына толькі ў шпіталі. Воўк парваў ёй адзенне, пляччо, іншыя часткі цела. У той жа дзень драпежнік напаў недалёка ад крамы ў вёсцы Двор Савічы на старэнькую бабулю, моцна параніў старой твар – спатрэбілася складаная хірургічная аперацыя і працяглае лячэнне ад шаленства. Пакусаў воўк і маладога мужчыну.

Кацярына перакананая, што такія стрэсы разам з радыяцыяй і забіраюць здароўе ў чалавека. А тут яшчэ сын яе, што жыў у Бабруйску, знік у Расіі. Паехаў туды на працу – і знік. Другі сын ва Украіне заўчасна пайшоў з жыцця па неасцярожнасці, таксама на працы. Наверх яшчэ каранавірус дадаўся, які да людзей чапляецца, як той чартапалох у зарасніках.

– *Вы думаеце, ад чаго людзі ў нас чэзнуць? Ад нерваў, стрэсаў усіх гэтых упераменшку з радыяцыяй,* – перакананая Кацярына.

У пазамінулым годзе адзінокія самасёлы нацярпеліся страху яшчэ і ад ваеннай тэхнікі. Нагналі яе столькі, што ўсё навакольле гуло і калацілася. Верталёты лёталі. Самотным самасёлам вайскоўцы наказвалі зачыніцца ў хатах і пастарацца нікуды не выходзіць. Выстраілі тую спецтэхніку за колішняй школай перад лесам. І давай пускаць ракеты некуды ўглыб запаведніка альбо, можа, на нейкі палігон.

Але больш за ўсё Кацярына ўспамінае італьянцаў з дабрачынных арганізацый. Яны ў красавіцкія дні перад гадавінай Чарнобыля часцяком наведваліся ў Савічы, а летам запрашалі Кацярыніных унукаў, якія жывуць у Хракавічах, у Італію на адпачынак.

– *Летась і сёлета італьянцы ўжо не прыязджалі з-за гэтага «кавіду» – кажуць, ён там у іх вельмі моцна бушуе. А то як едуць да мяне, то мяхамі вязуць прадукты. Усё чыста прывозяць – і паесці, і папіць. Яны такія вясёлыя, вятлівыя. Аўтобусам проста да хаты пад'язджаюць, настрою прыбаўляюць,* – зазначае Кацярына.

## Сынава доля

У Савічах другая з сямі хат, дзе трымаецца дах і зашклёныя вокны, належыць сыну Кацярыны, Рыгору Чэчку. Летась яму споўнілася 60. У маладосці вучыўся ў Гомелі на слесара-сантэхніка, працаваў на розных прадпрыемствах. Ажаніўся. Пераехаў у Прыпяць, горад атамшчыкаў, што побач з Чарнобыльскай АЭС. Рабіў там па спецыяльнасці ажно да самай катастрофы. Звёдаў пасля трагедыі адсяленне, перасяленне і ўрэшце вярнуўся на радзіму. Сямейнае жыццё не заладзілася. Жонка з дачкою як чарнобыльцы атрымалі жыллё ў Буда-Кашалёўскім раёне, а Рыгор аблаштаваўся ў Савічах, стаў дапамагаць маці. Ён і раніцай, і ў поўдзень, і ўвечары ў маткі — хаты ж побач, якіх метраў трыста. У Рыгора амаль 22 гады працоўнага стажу. Але каб яму выйсці на пенсію на дзесяць гадоў раней за звычайны ўзрост, бракуе трох гадоў таго стажу. Дый пасведчанне ліквідатара ўжо даўно скасавалі, замяніўшы яго на пасведчанне пацярпелага. Займець працу ў адселенай вёсцы не стала лягчэй, бо тут толькі лясніцтва радыяцыйна-экалагічнага запаведніка з абмежаванай колькасцю супрацоўнікаў. Ездзіць за трыццаць вёрст хоць бы ў Чамярысы не выпадае — дабірацца туды кожны дзень далёка і няма чым.

– *Жалеззе наўкола збіраю, дзе якое засталося. То з зямлі выцягваю, то са склепа якога. У Двары Савічах прымаюць па 28 капеек за кілаграм. Глядзіш — рубель які зарабіш на цыгарэты. Улетку лісічкі збіраю, іх па два з паловай рублі прымаюць, а часам і крыху больш. Нарыхтоўшчыкі круцяць, кажуць, што радыяцыя ў грыбах, таму і кошты такія. Бывае, бракуюць. А тут, глядзі, штраф напаткаеш. Зайшоў за шлагбаум, зл авілі цябе леснікі з запаведніка — атрымай пратакол за збор грыбоў на заражанай тэрыторыі, а за ім штраф у дзесяць базавых — 290 рублёў. А я ж тут вырас, лічы, жыццё пражыў, а мяне тут ганяюць у лесе, як дзіка якога!* — крыўдуе Рыгор.


Рыгор Чэчка.

Кацярына спагадае старэйшаму сыну-чарнобыльцу і зноў нагадвае, што сама хутка памрэ, а Рыгор без капейчыны застанецца. Пенсіі ж яму яшчэ тры гады чакаць у звязку з павышэннем пенсійнага веку, а ў яго яшчэ з войска страўнік парэзаны ды спіна сарвана праз цяжкае жалеза.

## «Шкадую, што вярнулася»

Пасля чарнобыльскай катастрофы, калі выселілі Савічы, **Валянціна Беразняцкая** з трыма дочкамі апынулася ажно каля Полацка. Мужа ў кабеты на той час ужо не было — памёр заўчасна, атрымаўшы ў аўтааварыі моцнае калецтва.

Чатыры гады жыла Валянціна з дзецьмі на поўначы Беларусі, але не прыжылася там. Хацелася назад у Брагін. Гэты райцэнтр тагачасныя ўлады меліся таксама адсяліць з-за радыяцыі, ды перадумалі, хоць значная частка жыхароў пакінула мястэчка пасля катастрофы. Сюды сталі сяліць прыезджых і вяскоўцаў, што пазбавіліся сваіх дамоў у 30-кіламетровай зоне і не жадалі пакідаць раён.

*(Заканчэнне на 8-й стар.)*

ЧАРНОБЫЛЬСКІ ЛЁС

# Як рэанімавалі адселеную вёску Савічы...

*(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.)*

Вярнулася ў Брагін і дачка Валянціны і ўжо тэлефануе: «Мама, прыязджай».

– *Шкадую зараз, што вярнулася. Я ж каля самага Полацка жыла, меддапамога побач, сацыяльныя выгоды. А тут я ўжо ў ліку апошніх самасёлаў. Сэрца ўжо падводзіць, ціск даймае. На цяперашні розум я не вярталася б. А калі там была, то разрывалася. Было не па сабе. Здавалася, і зямля, і лес не такія. І нібыта нават людзі адрозніваюцца,*— кажа Валянціна.

Па вяртанні жанчына не засталася ў Брагіне, а прыехала ў Савічы. Працаваць не было дзе. Да пенсіі сяк-так дарабляла ў саўгасе ў Чамярысах. Бывала, стаяць людзі на вуліцы ў чаканні аўтобуса, а ён і не прыедзе — і ўсе, хто меўся ехаць, па хатах разыходзяцца. Такая тут праца была ў самасёлаў. Адпаведна і пенсія — камару ў жменю.

Гаспадарлівая па складзе характару, Валянціна завяла карову, гадавала парсюкоў, трымала козы і авечкі. Усё было сваё – бульба, свініна, бараніна, гародніна, малако. Валянціна нават сыр варыла — свой, хатні, зусім не такі, які прадавалі на той час у крамах. Распавядала неяк, што мінскія навукоўцы ў яе на гародзе зямлю на аналіз бралі і здзіўляліся: у іншых мясцінах радыяцыі нават болей, але там людзі жывуць, і ніхто іх не адсяляў.

## «Грошай не напасешся курэй трымаць»

З цягам часу жывёлу з падворка Валянціне давялося збываць. Не ставала сіл даглядаць яе. Цяпер у гаспадарцы засталіся толькі куры, каза з казлянятамі ды іхні маркач.

– *Грошай не напасешся нават курэй трымаць. Мяшок камбікорму (каля 30 кілаграмаў) каштуе 36 рублёў. Слухайце, на кірмаш у Брагін прыватнік прывозіць такі ж мех па 22 рублі. 14 рублёў спажывецкая кааперацыя накручвае — гэта што такое? На прадукты кошты паўзуць і паўзуць, а пенсіі маем з вераб'ёву дзюбу,* — жаліцца 81-гадовая кабета.



Валянціна Беразняцкая.

Пакуль услых перабіраем, куды гэта звярнуцца дзеля хоць якой рэакцыі на заўвагу самасёлаў, Валянціна Адольфаўна зазначае: «*Лукашэнка нас шкадуе — па тэлевізары так гамоніць. А ў аптэку хоць ужо не заходзь. Дарагавізна. Добрых лекаў ужо недакупіцца*».

Колькі гадоў таму да Валянціны з Грушнага пераехаў жыць **Іван Цалуйка**. Дзеці ў Івана дарослыя, раз'ехаліся хто куды. Жонка памерла, і ён застаўся адзін. Прыехаў у Савічы фурманкай, бо меў добрага коніка, які дапамагаў самасёлам садзіць соткі, вазіць дровы ды выконваў ролю «легкавіка» пры паездках у краму ў Двор Савічы.

Валянціна хоць і кажа іншы раз на Івана, што ён муж «мімаходны», але шануе яго як добрага чалавека і гаспадара. Удваіх лацвей у знявечанай чарнобыльскай вёсцы і гарод сеяць, і шулякоў ганяць, якія цікуюць з вышыні за курамі на панадворку, каб каменем кінуцца на чарговую выбраную ахвяру.

Коніка Іван Харытонавіч пару гадоў таму збыў: цяжка ўжо не толькі хадзіць за плугам, але і даглядаць скакуна, сена яму назапашваць на зіму.

– *Спраў Харытонавічу і без каня знойдзецца. Вось зараз прыгрэе сонца, вужоў ды гадзюк з зараснікаў напавылазіць — абараняць мяне будзе. Зноў жа за лета козам сена накосіць. А можа, яшчэ і вайскоўцы прыедуць на вучэнні, то цыбуляй і памідорамі іх пачастуем. Пер'е цыбулі яны ўпадабалі. Дый спакайней будзе нам*



Іван і Валянціна.

*удваіх. А то як сталі ваякі насупраць нас тыя ракеты пускаць, то, я думала, хата мая зляціць,* — кажа Валянціна з яўнай доляй дасціпнага гумару.

## Тут і там

Напрыканцы вуліцы Леніна тры жывыя хаты. Двух гаспадароў — **Мікалая Нікіціна** і **Святланы Садаводавай** — дома не заспеў, пагутарыць з імі пра жыццё-быццё самасёлаў у здзічэлай вёсцы не ўдалося.

Апошняя ў гэтым кутку хата належыць шматдзетнай сям'і **Ірыны** і **Аляксандра Скачкоў**. Гаспадар на працы. Маці трох дачок таксама спяшаецца ў лясніцтва, дзе прыбірае памяшканне. Для размоў у яе няма ні часу, ні жадання. Паведаміла толькі, што яны з мужам і дзецьмі нарэшце атрымалі трохпакаёвую кватэру ў Брагіне. Але цалкам пераязджаць у райцэнтр не выпадае: невядома, дзе там знайсці працу, ды яшчэ такую, каб у канцы месяца не бегаць і не пазычаць грошы «да заробку». Аляксандр сам распавёў пры сустрэчы, што яму асабіста яшчэ трэба шэсць гадоў адрабіць у радыяцыйным запаведніку, каб выйсці на датэрміновую пенсію па ўзросце. Дый працэнты па крэдыце дзяржавы на будаўніцтва кватэры неабходна гасіць — 75 рублёў штомесяц цягам 20 гадоў. Апроч таго, старэйшая дачка летась скончыла школу і паступіла вучыцца ў Мазыр на медыцынскую сястру — і ёй патрэбна дапамога. Быць без працы шматдзетным бацькам ніяк не выпадае, таму і трымаюцца яны Савічаў, пакалечаных Чарнобылем.

## «Свая хатка як родная матка»

Найстарэйшая жыхарка сярод самасёлаў чарнобыльскай вёскі Савічы – **Хвядора Маркаўна Беразняцкая**. Ёй без малога 99 гадоў. Мясцовыя жыхары называюць яе баба Ходзя. Апошні раз з ёй сустракаўся ў 2016-м. У бабулі хоць і былі хворыя ногі, але яна яшчэ тупала з кіёчкам на падворку або сядзела ля акна.

Дочкі забіралі кабету на зіму ў горад, але ці адно не з першым прылётам жаваранкаў яна прасіла-маліла вярнуць яе ў вёску. Казала шчыра: «*Няхай бы далі мне хоць у Маскве ў Крамлі кватэру і грошы на дадатак плацілі, я не паехала б. Нікуды не хачу, акрамя сваёй хаты. Свая хатка як родная матка*».

Сын у бабы Ходзі жыве ў Нямеччыне. У маладосці Хвядора та і сама пабывала ў выгнанні. Але і туды яе душа не рвецца.

Дочкі прыязджалі ў Савічы, як на вахту: чысцілі ўсё, мылі, прасавалі. **Галя Клімовіч**, сацыяльная работніца ў Грушнага, прадукты прывозіла. Пільнаваў бабулю найбольш Грыша Чэчка. Ён і вады прынясе, і дроў, і грубу прапаліць, і юшку зачыніць у патрэбны час, каб цяпло праз комін не выскачыла. Наглядалі часам за Ходзяй і леснікі з радыяцыйнага запаведніка, чыя база побач з сядзібай самотнай старой.

Апошнім часам дочкі неадлучна жывуць з Хвядорай Маркаўнай. Найбольш Валянціна з Мінска. Яна працавала фармацэўтам, а зараз на пенсіі.

– *Маці ўжо не ходзіць, гаварыць ёй цяжка — не паразмаўляеце,* — папярэджвае Валянціна.— *Яна неяк упала, суглоб пашкодзіла. Мы з маці і каранавірусам перахварэлі — я яго з Мінска прывезла. Добра, што лекамі перад прыездам запаслася. З цяжкасцю, але выкараскаліся.*

Раней, калі гаварыў з бабуляй Ходзяй, наўпрост папытаўся, што прывяло яе назад у Савічы. Бо пасля адсялення яна з мужам, ветэранам вайны, тры гады жыла ў Мінску ў сына (у Германію ён выехаў пазней). Выглядала, што вяртанне было ўзважаным крокам душэўнага паратунку — для мужа, яе самой, а заадно ў немалой ступені і вызваленнем сына і дачкі ад пакутлівых абавязкаў па доглядзе роднага чалавека.

– *У дзеда майго гангрэна падключылася,* — прыгадвала баба Ходзя. — *Спачатку адну нагу адрэзалі, потым і другую. Пакутаваў моцна.*

І яна намучылася з мужам. Казала, што ўсё Бога прасіла, каб і яе забраў, але ж не браў. Лічыла так: лепей не дажыць, чым пержыць. Восемдзесят гадкоў — сама добра.

Сябе Хвядора не шкадавала. Як дазналася, будучы ў Мінску, што людзі сталі вяртацца ў Савічы, то і сама прасілася ў дзяцей, каб адвезлі назад у выселеную вёску. Проста галасіла. Урэшце вярнулася, прапісалася тут. Ну, а потым і дзеда прывезлі. Ён нават паспакайнеў у родных сценах. Тут усё нагадвала пра шчаслівыя дні: хату паставілі, як звон, — прасторную, светлую, пяцёра дзяцей нарадзілі і выгадавалі — чатыры дачкі і сына.

Баба Ходзя не ведала дакладна, ці абумоўлена трагедыя яе мужа наступствамі чарнобыльскай катастрофы. Але, параўноўваючы вайну і радыяцыю, прыходзіла да высновы, што для чалавека яны аднолькава згубныя: «*Адна страляе гучна, другая — бясшумна, але ж цэляць яны аднолькава — у чалавека*».

Шаноўнай кабеце незразумела толькі, якую карысць мела Беларусь ад той Чарнобыльскай атамнай станцыі. Так, ліха адхапілі напоўніцу. Зірнеш толькі на Савічы – і сэрца сцінаецца ад жалю: столькі людзей сышло, такая вёска загублена! Школа трохпавярховая, сельсавет, пошта, клуб, дзіцячы садок, тры крамы, хаты наўкола як на падбор. Жыць бы і цешыцца. І што яшчэ горай: не адну ж вёску загубілі — 289 паселішчаў перасталі існаваць пасля катастрофы на ЧАЭС.



Ворыва трактарам «Брагінаграсэрвісу» для ААТ «Камарынскі» ў ваколіцах вёскі Савічы.

Баба Ходзя, канечне, чула і па тэлевізары бачыла, што Беларусь узялася за сваю атамную станцыю. Здзіўлялася. Згоды ў грамады не пыталіся, а пабудавалі.

– *Нельга яе будаваць каля людзей. Хіба толькі ў нетрах якіх ставіць, калі знойдуцца ў нас такія,* — разважала самотная вяскоўка, навучаная сваёй бядзіцаю.

Назіраючы неяк праз акно за навакольным светам, Ходзя заўважыла, што паўз яе вокны стаў ездзіць трактар з вялікімі плугамі, а потым і сеялкай. Дзіву давалася, калі дазналася, што наўкола яравыя, азімыя, кукурузу сеюць: «*Пасля ж гэтым ураджаем худобу кормяць, а праз худобу і да чалавека трапляе тая радыяцыя*».

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ, журналіст, удзельнік ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС у 1986–1987 гадах. Фота аўтара.**

***ДАВЕДКА.*** Паводле *пастаноў Саўміна Беларусь, участкі радыяцыйна небяспечных зямель, выведзеных з эксплуатацыі пасля чарнобыльскай катастрофы, перыядычна вяртаюцца ў гаспадарчы абарот. Прынамсі, на Гомельшчыне палічылі прыдатнымі для вырошчвання розных сельскагаспадарчых культур звыш 16 тысяч гектараў, з іх 1,5 тысячы гектараў дадалі ў 2018 годзе (пастанова №8 ад 8 студзеня) гаспадаркам Буда-Кашалёўскага, Кармянскага і Рэчыцкага раёнаў.*

АРТ-СЕЗОН

# Настоящая любовь хозяйки магазинов duty free



И это никакой не секрет: известная бизнесвумен **Елена СКРИПЕЛЬ** преклоняется перед творчеством народного артиста **Валентина ЕЛИЗАРЬЕВА**. Она не пропускает ни одной его премьеры, а также помогает Большому театру материально – спонсирует четвертый фотоальбом, посвященный творчеству выдающегося хореографа. Только что вышел огромный фолиант о «Щелкунчике» – гениальном балете П.И.Чайковского, который Валентин Николаевич Елизарьев представил публике осенью 2020 года в своей новой редакции. Издание, как всегда, шикарное: во-первых, талантливые фото Алексея Казнадея, во-вторых, бумага, печать, подарочный формат – всё на высшем полиграфическом уровне.

А начинался проект четыре года назад. Первый альбом из серии «Мгновения Валентина Елизарьева» был издан Е.Скрипель, когда маэстро, надо заметить, был еще в изгнании и не работал в Большом театре. И хотя большой бизнес не любит щекотливых ситуаций, это не остановило Елену Скрипель – надо отдать должное прозорливости предпринимательницы, – и в 2017 году на свет появился фотоальбом о балете «Спартак». Возможно, это лучший балет Елизарьева, хотя искусствоведческий спор на этот счет никогда не будет закончен, потому что талантливое наследие хореографа очень трудно ранжировать.

Буквально через год, в 2018-м, публика ахнула, увидев следующую фотокнигу – о прекрасном балете «Ромео и Джульетта». Еще через два года, в 2020-м, появилась фотолетопись елизарьевского «Сотворения мира». И вот сейчас Большой театр презентовал великолепное, роскошное издание о балете «Щелкунчик». Сотни




фотографий высшего качества (а выбирались они, как подтвердил Валентин Николаевич, из тысячи снимков – Алексей Казнадей работал на спектаклях и на репетициях четыре месяца подряд). В результате знаменитый балет запечатлен буквально «по кадрам», то есть от начала до конца по самым эффектным балетным па и поддержкам. И, конечно, неотъемлемая часть роскоши альбома – фото великолепной сценографии Евгения Лысика. Какое счастье, что этот могучий талант работал в Беларуси вместе с Валентином Елизарьевым!

Любой альбом из серии «Мгновения Валентина Елизарьева» продается в Большом театре перед началом каждого спектакля. Да, это недешевое приобретение. Но, поверьте, такая книга в домашней библиотеке – ценность на века. Не стыдно и детям в наследство оставить.

**Елена МОЛОЧКО.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 326-68-71
Рэкламны аддзел (017) 363-66-04
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ